# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года — Субота, 10 верасня 1994 года — № 96 (10796) — Цана 30 руб.




## Прафсаюзы настойваюць на павышэнні мінімальнай зарплаты да 25 тысяч рублёў

На чарговым пасяджэнні прэзідыума Савета Федэрацыі прафсаюзаў разгледжана тактыка дзеянняў і ўдакладнена пазіцыя прафсаюзаў па абароне сацыяльна-эканамічных інтарэсаў працоўных. На пасяджэнні адзначалася, што многія прапановы Савета ФПБ, накіраваныя на прадухіленне зніжэння ўзроўню жыцця людзей, стабілізацыю эканомікі, улічваюцца ў праекце антыкрызіснай праграмы, над якой зараз працуюць ва ўрадзе. Напрыклад, аб удасканаленні існуючага падатковага заканадаўства.

Прэзідыум Савета ФПБ унёс прапанову аб пераглядзе мінімальнай зарплаты. Пры захаванні сённяшніх тэмпаў росту цэн і тарыфаў мінімальны спажывецкі бюджэт на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек у верасні перавысіць 118 тысяч рублёў. Існуючая зарплата пакрые толькі 9—10 працэнтаў расходаў чалавека. Таму прафсаюзы і лічаць неабходным павысіць аплату працы работнікаў усіх катэгорый. Прапанова — устанавіць з 1 кастрычніка мінімальную зарплату не ніжэй за 25 тысяч рублёў і перагледзець стаўку 1-га разраду — накіравана ўраду.

*Прэс–цэнтр Савета ФПБ.*

■ Актуальное интервью

## БЕЛАРУСЬ СТАНЕТ МОРСКОЙ ДЕРЖАВОЙ?

Новым министром транспорта стал Александр Васильевич Лукашев. И первый мой вопрос ему — насчет биографии. Попросил коротко рассказать о жизненном пути.

— Родился в 1950 году в Алтайском крае. Окончил в 1972 году политехнический институт и стал работать главным инженером автотранспортного предприятия. До 1982 года трудился в Сибири, затем переехал в Беларусь и возглавил Червенский автопарк. В 1990 году избран депутатом Верховного Совета республики. С 1993 года до назначения на пост министра был секретарем Постоянной комиссии Верховного Совета по промышленности и услугам населению. В период избирательной кампании по выборам президента возглавлял Минский городской штаб поддержки Александра Лукашенко.

— Что нового внесете в работу транспорта?

— Сначала о некоторых изменениях в министерстве. Если раньше БелАВИА, комитет по использованию воздушного пространства и другие подобные ведомства имели двойное подчинение, то теперь они будут напрямую подчиняться нам. Все, что касается транспортного комплекса, — железная дорога, авиация, автомобильный и речной транспорт, — непосредственно входит в состав нашего министерства. Надеемся, что такое единоначалие повысит эффективность его работы. В соответствии с этими изменениями в штат министерства введены четыре моих заместителя.

Имеем мы и департамент по морским делам. Возможно, Беларусь вскоре станет и морской державой. Ведь сейчас мы экспортируем через Черное и Балтийское моря большое количество калийных удобрений. Ясно, что своим транспортом перевозить их гораздо удобнее и дешевле. Поэтому и создаем ряд компаний по использованию портов и судов морских пароходств.

— Как вы оцениваете положение дел в своем "хозяйстве"?

— Беспокоит нас состояние дел на транспорте. Наиболее стабильное положение сейчас имеет Белорусская железная дорога. В финансовом тупике оказались автомобилисты. Особенно те, кто занят пассажирскими перевозками. Здесь сказывается и то, что многие в республике имеют право на бесплатный проезд. Сейчас министерством прорабатывается документ об упорядочении системы льгот на пользование пассажирским транспортом. Считаем, что гораздо удобнее и для нас, и для граждан, пользующихся льготами на проезд, вместо проездных документов выдавать денежные компенсации. Готовится соответствующий Указ Президента.

И все же одна из главных причин тяжелого положения во многих отраслях транспортного комплекса республики заключается в разрыве хозяйственных связей.

Читатели, наверное, помнят, что когда республика находилась в составе СССР, автомобильный и авиационный транспорт, железная дорога считались одними из лучших в стране. А после распада Страны Советов были брошены на произвол судьбы, отодвинуты на второй план. Необходимы кардинальные изменения в экономической политике государства по отношению к транспорту.

Понимаю, людей волнует стоимость транспортных услуг. Тарифы на перевозку пассажиров и грузов будут расти по мере роста цен на горюче-смазочные материалы. А, как известно, они формируются не у нас. Пока же самый дешевый проезд — по железной дороге.

Министерство будет принимать энергичные меры по повышению эффективности всех видов транспорта.

*Беседовал Валерий КОЛЕСНИКОВ.*

## АДВАЖНАМУ ПАДВОДНІКУ

7 красавіка 1989 года. У гэты дзень халодныя хвалі Нарвежскага мора захліснулі савецкую атамную падводную лодку "Камсамолец". Нямногім маракам удалося выратавацца. У ліку тых, хто не паспеў пакінуць борт цярпеўшай катастрофу субмарыны, быў і наш зямляк, ураджэнец Клецка, старшына другой стацці рулявы Ігар Апанасевіч. Незагойнай ранай, бясконцым горам стала гібель дваццацігадовага хлопца для яго бацькоў Алены Антонаўны і Алега Іванавіча, родных і блізкіх. Памяць пра яго свята захоўваюць на радзіме героя. Адной з яскравых праяў гэтага стала адкрыццё бронзавага бюста марака ля клецкай сярэдняй школы № 1, дзе ён вучыўся. Адбыўся ўрачыста-жалобны мітынг, на якім пранікнёныя словы пра Ігара сказалі дырэктар школы І.А.Кунігель, аднакласніца Таццяна Навіцкая, настаўнік, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Б.З.Рыжніцын, воін-інтэрнацыяналіст Вікенцій Кісель, вучань 11-га класа Уладлен Паклонскі. Бацька адважнага падводніка, пасмяротна ўзнагароджанага ордэнам баявога Чырвонага Сцяга, Алег Іванавіч Апанасевіч шчыра падзякаваў за памяць пра сына, асабліва аўтару скульптурнага партрэта — заслужанаму дзеячу мастацтваў Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі СССР І.Я.Міско, аднаму з былых кіраўнікоў раёна А.І.Ярашуку, намесніку старшыні райсавета А.М.Жукоўскаму, а таксама заслужанаму дзеячу мастацтваў Беларусі кампазітару Э.Б.Зарыцкаму і мясцоваму паэту А.П.Курыльчыку, якія напісалі песню, прысвечаную подзвігу Ігара Апанасевіча.



*Мікалай Іосіфавіч АКАЛОВІЧ жыве ў вёсцы Мелькавічы Дзяржынскага раёна. У яго цудоўны сад, у якім шмат кветак, розных экзатычных раслін. Асаблівыя адносіны ў Мікалая Іосіфавіча да пчалярства. У гэтай справе ён сапраўдны майстар. А ўзнагарода за клопат — смачны мёд: прыемна і самому паспытаць, і гасцей пачаставаць.*

*Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.*

## 15 СТОГАДОВЫХ ЖЫХАРОЎ. І ЎСЕ — ЖАНЧЫНЫ

Члену Лагойскай раённай выбарчай камісіі, намесніку старшыні раённага Савета дэпутатаў А.А.Багдановічу ў перыяд кампаніі па падрыхтоўцы да выбараў першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь даводзілася разбірацца з многімі пытаннямі. У тым ліку і са складаннем спісаў для галасавання дома — па прычыне хваробы, паважнага ўзросту. Вось тады і звярнуў Анатоль Аляксандравіч увагу на тое, што ў тым жа Задор'еўскім сельсавеце даволі часта сустрэнеш людзей, якім споўнілася дзевяноста і больш гадоў. Так нарадзілася ідэя зрабіць аналіз узроставага стану насельніцтва ў раёне.

Яго вынікі былі даволі цікавыя. Аказваецца, на Лагойшчыне зараз жыве 15 чалавек, якім споўнілася сто і больш гадоў. А Алене Пятроўне Гунько з вёскі Харошае Задор'еўскага, Марыі Аўгустаўне Пашук з Баброва Нястанавіцкага і Аляксандры Вікенцьеўне Латыш з Лагазінскага сельскіх Саветаў мінула ўжо па 105 гадоў. Па стагоддзю і яшчэ чатыры гады пражылі на белым свеце Сцефаніда Мікалаеўна Бялькович з Задор"я, Ксенія Цімафееўна Дышлевіч з Чыстага Бора, Пелагея Юльянаўна Зароўская са Знаменкі, Алена Маркаўна Кізіна з Сакавічаў.

Варта падкрэсліць і той факт, што ўсе 15 жыхароў раёна, якім споўнілася па 100 і больш гадоў, — жанчыны. Усе яны жывуць у сельскай мясцовасці. 182 прадстаўнікі Лагойшчыны размянялі дзесяты дзесятак гадоў. З іх толькі 22 — мужчыны.

Характэрна, што большасць доўгажыхароў жыве ў глыбінцы, такіх аддаленых сельсаветах, як Задор'еўскі, Чырванашвабаўскі, Янушкавіцкі. У гэтай сувязі хочацца прывесці яшчэ адзін прыклад. У невялікай вёсачцы Новае Чэрнева Гайненскага сельсавета "зарэгістраваны" ажно чатыры доўгажыхары. Па гэтаму паказчыку населены пункт у некалькі хат амаль зраўняўся з райцэнтрам, дзе налічваецца 11,6 тысячы чалавек.

*Іван СІЛЯЎКА.*
*Лагойскі раён.*

■ Кантакты

## АДКРЫТЫ ДЫЯЛОГ

**І госці, і гаспадары, якія іх прымалі, у час гутаркі былі шчырыя да канца. Ім не было што хаваць адзін ад аднаго. Хоць яны ўзначальваюць грамадскія арганізацыі ў розных краінах, аднак мэты і задачы ў іх супадаюць — абарона інтарэсаў і правоў сваіх членаў. Тым больш што сустракаюцца ўжо не першы раз — сяброўскія сувязі паміж прафсаюзамі вобласці і зямлі Бадэн-Вюртэмберг (ФРГ) устаноўлены гадоў сем назад.**

За гэты час многае змянілася ў нашым жыцці. Беларусь стала суверэннай дзяржавай. І на Захадзе вельмі ўважліва сочаць за развіццём падзей у рэспубліках былога Саюза, добра ведаюць аб тых цяжкасцях, якія мы зараз перажываем. Таму і хацелася старшыні савета прафсаюзаў рэгіёна Альб—Донау—Ульм (Германія, зямля Бадэн-Вюртэмберг) Карлу Хайнцу Бекеру, старшыні вытворчага савета прадпрыемства «Івека-Магірус» Зігфрыду Гарні і старшыні галіновага прафсаюза работнікаў хімічнай, папяровай і керамічнай прамысловасці Вернеру Бруст-Хаасу пачуць з першых вуснаў інфармацыю аб сацыяльна-эканамічным становішчы ў Беларусі, у тым ліку і ў Мінскай вобласці, аб тым, як дзейнічаюць у гэтых умовах нашы прафсаюзы — аб іх тактыцы і стратэгіі, метадах і формах работы, структуры саміх арганізацый.

Старшыня савета аб'яднання прафсаюзаў вобласці Міхаіл Хаванскі, яго намеснік Валянцін Карабановіч, загадчыкі аддзелаў падрабязна расказалі аб справах працаўнікоў Міншчыны, праблемах і цяжкасцях, якія сустракаюцца на іх шляху.

Адбыўся абмен думкамі наконт таго, як стрымаць рост беспрацоўя, расшырыць колькасць рабочых месц, павысіць узровень занятасці насельніцтва, забяспечыць рост зарплаты, дабрабыту людзей.

Прафсаюзныя дзеячы з Германіі наведалі мінскія заводы шампанскіх він і аўтамабільны, пабывалі на Барысаўскім фармацэўтычным, дзе азнаёміліся з умовамі работы і жыцця працоўных калектываў, вырашэннем іх сацыяльна-бытавых праблем. З цікавасцю яны аглядалі і памятныя мясціны беларускай сталіцы.

Заўтра нямецкая прафсаюзная дэлегацыя адправіцца дамоў.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## ФЕСТЫВАЛЬ ЛЯЛЕЧНЫХ ТЭАТРАЎ

Цэнтр адраджэння і развіцця беларускай культуры г.Мінска сумесна з Рэспубліканскім дзіцячым фондам праводзяць у верасні фестываль дзіцячых тэатральных і лялечных калектываў "Тэатра цуды — хворым дзецям", прысвечаны Міжнароднаму году сям"і. У час гэтага мерапрыемства юныя артысты выступяць у дзіцячых бальніцах, інтэрнатах, дзіцячых Дамах горада Мінска і вобласці.



### НАДВОР'Е

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра — 16 — 21, у Мінску — 18— 20 градусаў цяпла.*

## РАДАВАЦЦА ЯШЧЭ РАНА

Не кожная вёска можа пахваліцца цэнтралізаваным ацяпленнем. А вось у Хаўхоліцы Барысаўскага раёна яно падведзена ўжо да 26 дамоў, яшчэ да 20-ці падводзіцца.

Праўда, асабліва радавацца рана. У хатах будзе цёпла зімой, калі для кацельні калгаса імя Чкалава хопіць мазуту. Гэтага ж у наш час гарантаваць ніхто не можа, а таму дровы для рускай печы, пэўна, усё ж нарыхтоўваць трэба.

Праўленне калгаса, нягледзячы на неспрыяльную для развіцця сельскай гаспадаркі палітыку ўрада, знаходзіць сродкі на вырашэнне сацыяльных пытанняў. Капітальна адрамантаваны, напрыклад, сельскі Дом культуры. Да новага года вуліцы Хаўхоліцы павінны "апрануцца" ў асфальт.

*Сцяпан БУКАЦІЧ.*

## Да ведама дэпутатаў абласнога Савета

*XYII сесія абласнога Савета дэпутатаў адбудзецца 14 верасня г.г. у будынку аблвыканкома па вуліцы Чкалава, 5.*

*Пачатак работы сесіі ў 10 гадзін.*

## ПАДАРУНАК З ІРЛАНДЫІ

Цесныя кантакты ўстанавіліся паміж 103-й мінскай гімназіяй і ірландскім дабрачынным фондам "Дзіцячы чарнобыльскі праект". Кіраўніцтва гімназіі аказвае садзейнічанне ў аздараўленні ў гэтай краіне дзяцей, накіроўвае настаўнікаў на стажыроўку, размяркоўвае гуманітарную дапамогу. Гэтымі днямі ў гімназію прыбылі з Ірландыі пяць новых машын "хуткай дапамогі". Па ўзгадненню са старшынёй фонду Эдзі Роуч дзве машыны будуць адпраўлены Гомельскай дзіцячай анкалагічнай бальніцы, па адной у Быхаў і Нясвіж і адна застанецца ў Першамайскім аддзеле аховы здароўя.

## НА ГРАНІЦЫ ПАВІНЕН БЫЦЬ ПАРАДАК

У Нацыянальным прэс-цэнтры прайшла прэс-канферэнцыя па выніках работы камісіі, якая правярала дзейнасць пагранічных войск Рэспублікі Беларусь. Генерал-палкоўнік Пётр Чаус расказаў аб праблемах граніцы Беларусі і пагранічных войск. Быў пералічаны цэлы шэраг прычын нестабільнай работы па ахове дзяржаўных рубяжоў. Камісія падрыхтавала шэраг прапаноў на разгляд Прэзідэнта. На яе думку, пагранвойскі павінны быць у распараджэнні самога Прэзідэнта. У далейшым жа Прэзідэнту прапанавана стварыць дэпартамент граніцы, які будзе непасрэдна звязаны з мытнымі, экалагічнымі і цэлым шэрагам іншых структур, зацікаўленых у захаванні парадку на граніцах дзяржавы.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Ідзе падпіска

## Заставайцеся з намі!

**Як зрабіць "Мінскую праўду" больш цікавай па зместу, больш аператыўнай? Аб гэтым ішла шчырая гаворка на нядаўняй рэдакцыйнай планёрцы. І мы прыкладзём усе намаганні, каб не расчараваць чытачоў, якія спынілі свой выбар на газеце сталічнай вобласці.**

Напамінаем, што падпісацца на

**"Мінскую праўду"**

можна да 20 верасня. Кошт яе на чацвёрты квартал — 1.800 рублёў, індэкс нашага выдання — 63323.

***Падпіска прымаецца ва ўсіх аддзяленнях сувязі і прадпрыемстваў "Саюздруку".***

**Заставайцеся з намі!**



Служба 02

## ЕСЛИ ВМЕСТЕ, СООБЩА

В один и тот же день в дежурную часть столичной милиции поступили сообщения об угонах автомашин «ВАЗ» и «БМВ». Как водится, незамедлительно были приняты меры розыска: информация доведена до сведения всех милицейских нарядов города, соответствующие ориентировки переданы в соседние области республики. К сожалению, эти меры положительных результатов не принесли, след пропавших автомашин обнаружить не удалось. В крайне расстроенных чувствах пребывали владельцы дорогостоящих «легковушек», думаю, не лестным словом поминали они и стражей порядка, и угонщиков. Но спустя сутки их мнение о милиции значительно изменилось. И не без помощи наших коллег из столичной области.

С большой ответственностью отнеслись к сообщению об угоне минских автомашин в Несвижском и Узденском РОВД, усилили надзор за движением транзитного транспорта, организовали необходимую отработку территории своих районов. А в результате — успех, который завершает любую профессионально выполненную работу.

Сотрудники Несвижского РОВД майор милиции Г.Д.Шингель совместно с инспектором старшим лейтенантом И.Г.Харитоновичем и милиционером-водителем сержантом В.И.Дорофеем, проводя рейд по отработке территории райцентра, обнаружили разыскиваемую УВД Мингорисполкома автомашину «Жигули» у ресторана «Несвиж». Организовали засаду, а спустя 10 минут «повязали» и угонщиков — молодых минчан.

Решительно и умело действовал и старший участковый инспектор Узденского РОВД майор милиции А.И.Шульженко, задержавший угнанную из Минска иномарку в 3 часа ночи возле деревни Калининск Узденского района. Преступники — ранее судимый, нигде не работающий минчанин и местные жители. Всем им еще не исполнилось 18-ти... Впереди у них, увы, безрадостная перспектива: предварительное следствие, а затем суд и суровое, но заслуженное наказание. Пока же они находятся в изоляторе временного содержания. А угнанные автомашины спустя сутки после сообщения об угоне в целости и сохранности возвращены законным владельцам.

Нельзя не отметить и четкую работу оперативного дежурного УВД облисполкома подполковника милиции В.П.Мазура. Во многом благодаря активной и целенаправленной работе возглавляемого им дежурного наряда и были раскрыты, выражаясь профессиональным языком, по «горячим следам» эти два преступления. К слову сказать, такие факты далеко не единичны. Сплоченность, дружное деловое взаимодействие отличает работу органов внутренних дел всех областей республики, да и стран так называемого ближнего зарубежья. И это вполне понятно: пусть шумят и спорят недалекие политики, наперебой стремящиеся доказать, кто из них «сувереннее», — настоящие профессионалы далеки от политических игрищ. Дело нужно делать, господа хорошие, дело! Тогда и жизнь простых тружеников изменится к лучшему. Хорошо бы всем, стремящимся на политический Олимп, понять это.

Начальник УВД Мингорисполкома генерал-майор милиции Б.З.Пилипенко направил своему коллеге генералу И.И.Карповичу письмо с выражением благодарности сотрудникам областной милиции, отличившимся при раскрытии этих двух преступлений и просьбой о поощрении их за проявленные бдительность и профессионализм. К этой просьбе, думаю, с радостью присоединятся и минчане С.Н.Маковский и В.В.Шульдов, вновь обретшие свои угнанные автомашины.

*Полковник милиции Валерий СТРАМБУРСКИЙ, начальник штаба УВД Мингорисполкома.*

■ Потребительская кооперация

# КТО ЗАМОЛВИТ О НАС СЛОВО?

**О потребкооперации сегодня снова заговорили. Далеко не в лестных тонах. Слов нет, недоработок в системе предостаточно: и на полках магазинов хоть шаром покати, и культура обслуживания оставляет желать лучшего, заготовка и переработка сельхозпродукции падает... Но это не только вина, но и беда потребкооперации. И у нее проблем, связанных с нашим смутным временем, пруд пруди. Работа с кадрами, состояние общественного питания — об этом сегодня говорят заместитель председателя правления Стародорожского райпо М.А.ЗАХАРОВА и заместитель председателя правления Любанского райпотребсоюза Т.И.КОСТЕНКО.**

***М.А.Захарова:***

— Лозунг: "Кадры решают все" сейчас, может быть, актуален как никогда. От грамотности, умения наших работников мыслить и действовать по-современному зависит успех на любом участке. Каждый должен знать, как он "завязан" на экономических результатах, обязан помнить, что рентабельность отрасли зависит от его личного вклада.

Я считаю, сейчас — самый трудный период в работе с кадрами. Казалось бы, что еще нужно? Нет закрытых магазинов, нет проблем с заполнением вакантных мест. Но это не радует.

Наращивать объемы порой не позволяют финансовые затруднения, и как следствие — сокращение численности или штатов.

Мы, конечно, стараемся трудоустраивать своих людей, для чего открываем подсобные промыслы. В нашем районе в последнее время задействованы цехи безалкогольных напитков, швейный, столярный, по розливу вина, оборудуется цех по производству драже "Полюшко". Но это все рабочие места для кадров массовых профессий. Труднее со специалистами, молодежью. Конечно, очень обидно, когда специалист высшей квалификации переводится на рабочую должность.

Раньше существовало такое понятие, как кадровая политика, добавлялось еще слово: партии. Нет партии — нет политики? В последнее время нам стало работать проще: нет диктата сверху. Однако чрезмерная самостоятельность, когда приходится вариться в собственном соку, тоже тяготит.

А кто должен осуществлять кадровую, да и не только кадровую, политику в потребкооперации? У нас в отрасли есть свой НИИ. Постановлением правления Белкоопсоюза ему было дано задание разработать перечень должностей для замещения их специалистами с высшим и средним специальным образованием и на этой основе — методику прогнозирования потребности в кадрах. Но и сегодня этих документов у нас нет.

"Благодаря" безработице, хоть и грешно так говорить, сократилась текучесть кадров. Может, поэтому в последнее время мало внимания уделяется устройству быта работников нашей системы. Хотя в нашем райпо построено 50 благоустроенных квартир, 30 семей и 26 холостяков проживают в общежитии, но в очереди на получение жилья стоят 129 семей и 18 человек — на получение места в общежитии. А за последние два года не сдано ни одного метра жилья.

Социальная сфера — это не только жилье. Это и обустройство рабочих мест, и соблюдение санитарных норм, и оборудование комнат отдыха, кабинетов психологической разгрузки, и многое другое. Чтобы развивать социальную сферу, нужно, чтобы наши конечные результаты, наша рентабельность удвоились. Но для этого опять-таки нужны финансы. Конечно, средств не хватает. Но раньше средства на строительство аккумулировались в облпотребсоюзе. Может быть, следует возродить опыт прошлых лет? И строить объекты сообща?

Помнится, в начале прошедшей отчетно-выборной кампании было страшновато выходить к пайщикам. Думалось, что все беды нашего несладкого существования будут приписаны именно потребкооперации. Но зато как было приятно, когда люди с большим пониманием отнеслись к нашим проблемам.

Ни для кого не секрет, что мелкая розница на селе, автомагазины, предприятия с низким объемом товарооборота, торговля некоторыми необходимыми изделиями на сегодняшний день убыточны. "В копеечку" влетает транспорт.

Наши конкуренты обустраивают свои торговые точки только в городе, их не тревожит доставка товаров в глубинку. А если представить, что потребкооперация тоже ищет только свою выгоду и убыточные предприятия закрыты? А как же люди? Естественно, правление райпо не может пойти на такой шаг.

***Т.И.Костенко:***

— Нынче лихорадит и отрасль общественного питания. Непрерывный рост цен и тарифов, снижение покупательной способности приводит к тому, что многие хозяйства, промышленные предприятия начинают отказываться от наших услуг. Пошли на такой шаг завод металлоизделий и два совхоза.

Чтобы не допустить развала отрасли, постоянно наращиваем товарооборот, выпуск продукции собственного производства, экономно используем материально-технические ресурсы.

Сейчас наиболее посещаемые предприятия — магазины кулинарии, отделы, кафетерии в универсамах, предприятия быстрого обслуживания: закусочные разных видов, кафе, бары.

В районе два магазина кулинарии, три кафетерия, которые дают свыше 20% всего объема товарооборота. Ибо здесь постоянно обновляется и расширяется ассортимент с тем, чтобы продукция была всегда качественной, свежей, привлекательной. А для этого сырье ищем, можно сказать, по всей республике. И добываем почти до трети товарооборота.

Закупили у колхозов и населения более двух десятков тонн мяса. Закуп товаров непосредственно у поставщиков более экономически целесообразен, т.к. вся торговая надбавка остается в объединении.

Для увеличения выпуска собственной продукции переоборудовали складское помещение в цех по производству 4—5 наименований колбасных изделий и копченостей производительностью 200 килограммов в сутки.

В последнее время за счет значительного увеличения цен на сырье возросла стоимость сдобно-булочных, кондитерских изделий, что, естественно, сказывается и на реализации продукции. Поэтому, чтобы сохранить достигнутые объемы, обновляем ассортимент, удешевляем изделия за счет снижения содержания сахара, жиров и других компонентов. Сами заготавливаем и перерабатываем овощи и фрукты под полную потребность, а также для торговли.

До нынешнего года предприятия общественного питания были освобождены от налога на добавленную стоимость по обороту собственной продукции. Теперь этой льготы мы лишены. И платим за квартал по 10 и более миллионов рублей. Значит, и нашему потребителю от этого не легче.

**Бізнес можна параўнаць з табурэткай на трох ножках, што ўвасабляюць вытворчасць, фінансавыя інвестыцыі, гандаль. Калі ад табурэткі адваліцца адна ножка, пэўны час вы захаваеце раўнавагу,але ўсё роўна абавязкова ўпадзяце.**

■ Прадпрымальніцтва

# ХІСТКАЯ ТАБУРЭТКА

Для існавання і працвітання любога прадпрыемства неабходна цеснае супрацоўніцтва фінансіста, прамыслоўца і прадаўца. Адладжаныя дзеянні кампаньёнаў, калі кожны адказвае за сваю сферу, не заваляць справу. Аб"ядноўвае іх адзіная мэта— дабрабыт. " Аднак дасягнуць яе магчыма толькі арганізаванымі намаганнямі ўсіх членаў грамадства",— запісана ў праграме Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь. Складана праводзіць эканамічныя рэформы ў краіне,дзе большасць насельніцтва не разумее і не падтрымлівае прадпрымальніка. Нягледзячы на гэта малы бізнес у рэспубліцы развіваецца, колькасць прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці перавысіла 200 тысяч. "Пры разумнай эканамічнай палітыцы, якая стымулюе прадпрымальніцкую дзейнасць, за год ці два можна забяспечыць работніку штомесячны даход у 250-300 долараў і на працягу 10-15 гадоў вывесці рэспубліку на ўзровень жыцця краін Еўрапейскага саюза",— чытаем далей у праграме.

Падкрэсліваецца: бедны спажывец з даходам 23 долары ў месяц нявыгадны прадпрымальніку.

Усё тлумачыцца проста. Каб атрымаць ад чалавека пэўную фінансавую карысць, трэба пакласці ў яго кішэню грошы, дакладней, даць магчымасць зарабіць іх. Дзяржава павінна цаніць нашу асобу як плацельшчыка падаткаў. Таму выгадна, каб працаўнік зарабляў як мага больш. Злучаныя Штаты Амерыкі маюць дзве асноўныя крыніцы папаўнення дзяржаўнага бюджэту: падатак з даходаў грамадзян і падатак на ўласнасць.

Наша ж эканоміка сілкуецца за кошт падаткаў, якія выплачваюць прадпрыемствы, арганізацыі, гаспадаркі. Таму няма дзяржаўнага інтарэсу да нашай кішэні, парожняя яна ці не.

Тым не менш сваімі галоўнымі партнёрамі беларускія прадпрымальнікі лічаць дзяржаву і прафсаюзы, паколькі залежаць ад палітыкі ўрада і прафсаюзнай тактыкі. Аднак устойлівая сацыяльная "табурэтка" пакуль не атрымліваецца, і прадпрымальнік вымушаны дзейнічаць на сваю рызыку. Яго крытыкуюць, скептычна ставяцца да ўсіх пачынанняў і шнараць па яго кішэнях. Наіўна думаць, што прадпрымальнік у нашых умовах зарабляе шалёныя грошы /рост заработнай платы прадпрымальнікаў у 8 разоў адстае ад зарплаты работнікаў дзяржаўных структур/. Толькі разлічыўшыся з усімі, хто прымаў удзел у справе, бізнесмен атрымлівае сам, калі наогул штонебудзь яму застанецца.

Бізнес, прадпрымальніцтва на самай справе не той заганны трафарэт — аперацыя па пакупцы танных тавараў для іх продажу па высокай цане. Фільм амерыканскага эканаміста, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Мільтана Фрыдмана "Свабода выбару" быў створаны ў 1990 годзе спецыяльна для гледача краін Усходняй Еўропы, каб растлумачыць прынцып рыначнай эканомікі. "Дык што такое свабода выбару? Гэта— магчымасць рэалізаваць сябе, зарабляць грошы. Гэта— калі дзяржава не дыхае табе ў патыліцу. Без эканамічнай свабоды няма свабоды чалавечай асобы", — сцвярджаюць аўтары фільма. Калі роўнасць членаў грамадства стаіць на першым месцы, а іх свабода — на другім, то ў такім грамадстве няма ні таго, ні другога.

*Наталля ШМІДТ.*




■ 11 сентября — День танкистов

# В БОЯХ ЗА БЕЛАРУСЬ

● За годы Великой Отечественной войны более 250 тысяч солдат, сержантов, офицеров и генералов из числа танкистов награждены орденами и медалями, около 1.160 человек стали Героями Советского Союза, 16 из них удостоены этого высокого звания дважды, в том числе три белоруса — Маршал Советского Союза И.И.Якубовский, генерал армии И.И.Гусаковский, полковник С.Ф.Шутов.

● 104 танкиста стали полными кавалерами ордена Славы.

К концу войны звание гвардейских получили 6 танковых армий, 19 корпусов, 110 бригад и более 200 танковых полков.

Впервые День танкистов отмечен 8 сентября 1946. Ежегодно День танкистов отмечают во второе воскресенье сентября.

● Ведущими конструкторами советских танков были М.И.Кошкин, Н.Л.Духов, Ж.Я.Котин, Н.А.Кучеренко, А.А.Морозов и др.

Среди видных военачальников танковых войск следует назвать маршалов бронетанковых войск П.С.Рыбалко, С.И.Богданова, М.Е.Катукова, П.А.Ротмистрова, генералов А.Г.Кравченко, Д.А.Драгуновского, И.Г.Фомичева, З.К.Слюсаренко.

● В боях за Беларусь совершили танковые тараны:

23 июня 1941 г. — командир 22-й танковой дивизии генерал-майор В.П.Пучанов (первый танковый таран в годы войны);

26 июня 1941 г. у д.Лапы (под Белостоком) — экипаж трех братьев-белорусов Елисея, Константина и Михаила Кричевцовых; 25 июня 1944 г. сержант механик-водитель М.А.Бухтуев и командир танка лейтенант Д.Е.Комаров таранили горящим танком вражеский бронепоезд на железнодорожной станции Черные Броды в Гомельской области. Оба посмертно удостоены звания Героя Советского Союза;

9 июля 1944 г. в боях за г.Слоним лейтенант И.М.Сухомлин совершил танковый таран. Удостоен звания Героя Советского Союза.

● Почетными гражданами белорусских городов стали танкисты — Герои Советского Союза А.С.Бурдейный, Н.И.Колычев, О.А.Лосик, И.Г.Кобяков, М.Ф.Панков, Г.Г.Кияшко, А.Ф.Пятакович, М.И.Родионов, А.А.Асланов, И.М.Сухомлин, В.Т.Обухов, М.В.Хотимский, И.И.Гусаковский и др.

● Именами воинов-танкистов названы улицы, переулки, средние школы многих городов Республики Беларусь. Среди них представители многих народов бывшего СССР. Русские — лейтенанты М.А.Анискин и М.М.Антонов и генерал Б.С.Бахаров;

азербайджанцы — генерал А.А.Асланов и младший лейтенант Н.Р.Рафиев;

белорусы — механик-водитель П.Х.Басенков, командир танковой роты старший лейтенант М.Г.Батраков, сержант А.А.Волох;

украинцы — лейтенанты П.С.Китченко, И.О.Мозговой, П.Н.Рак;

еврей — генерал С.М.Кривошеин;

мариец — младший лейтенант В.Д.Халев и др.

● Из женщин-танкистов в боях за Беларусь звания Героя Советского Союза удостоена сержант механик-водитель М.В.Октябрьская.

*Полковник запаса Б.ДОЛГОТОВИЧ.*




НА СНИМКАХ: танкисты в минуты отдыха; идет учеба.

*Фото Анатолия Басова.*

■ 1994 — Год сям'і

# Ёсць у іх і свае баяны, і свая "сарвігалава"

"Мы — таварыскія, баявыя і вясёлыя, — так, з немалой доляй гумару, характарызуюць сябе самі Мікулічы з пасёлка Юбілейны Сенніцкага сельсавета Мінскага раёна. — Але галоўнае — усе артысты". І сапраўды...

Сам Анатоль Міхайлавіч, інжынер-механік мінскай "Аграпрамтэхнікі", яшчэ і вадзіцель ды музыкант. Калісьці нават паступіў у вучылішча імя Глінкі. Толькі вось "служыць музам" не давялося — хлопец захапіўся дакладнымі навукамі. Музыка ж стала хобі. Паглядзелі б вы на яго калекцыю баянаў! Першы Анатоль атрымаў у падарунак даўным-даўно, у пятым класе. Зараз баянаў у доме Мікулічаў каля дзесятка. Няшмат, але сярод іх ёсць такое дзіва, як інструмент, зроблены ў 1932 годзе, і гонар гаспадара — электронны.

Маці, Марыя Аляксандраўна, паводле агульнага прызнання дамашніх, умее рабіць усё. (Нават пакой уласнымі сіламі адрамантавала). Але больш ёй падабаецца займацца з кветкамі. Яе кухня нагадвае сапраўдную аранжарэю.

Больш васемнаццаці гадоў Анатоль Міхайлавіч і Марыя Аляксандраўна побач. Амаль ніколі не спрачаюцца, упэўнены, што ім вельмі пашанцавала ў жыцці. Нябёсы ўзнагародзілі пяцярымі дзецьмі!

Тані васемнаццаць. Рамантычная, вершы піша. Звычайна прысвячае іх сваім, блізкім. Свеце шаснаццаць, займаецца ў вучылішчы мастацтваў і культуры. Васьмігадовая Насця — самая непасрэдная. Яе ў сям'і пяшчотна называюць "сарвігалавой". Ёсць яшчэ і пяцігадовая Воля, і доўгачаканы сын — двухгадовы Саша. Яму, з-за сціплага ўзросту, дазволена больш за астатніх. (Насця без крыўды заўважае: "Заўсёды раскідвае рэчы, а мне за ім прыбірай").

Усім дзецям Мікулічаў уласцівыя пэўныя музычныя здольнасці. Старэйшыя больш схільныя да ігры на музычных інструментах. (Нездарма ў сям'і, акрамя калекцыі баянаў, ёсць і два піяніна). Малодшыя ж спяваюць.

— Кожны з нас па-свойму таленавіты, — зноў жартуюць Мікулічы. — І мы гэта, калі трэба, дэманструем. Напэўна, таму і перамаглі ў конкурсе на лепшую мнагадзетную сям'ю, які праводзіўся ў Мінскім раёне.

Прашу больш падрабязна расказаць пра гэтую "эпапею". Мікулічы ўспамінаюць пра конкурс з радасцю:

— Пачалося ўсё нечакана. Дагэтуль не здагадваемся, чаму выбралі менавіта нас. Сталі рыхтавацца. Конкурс праходзіў у будынку рэстарана. І так прыгожа, так святочна ўсё было. Сталы багатыя: тут табе і шампанскае, і апельсіны... Заданні нам прапанавалі цікавыя. Мы і стол сервіравалі, і музыку падбіралі, і песні выконвалі. Тут і выйшлі наперад: нам жа нават акампанаваць не трэба было — свае музыкі ёсць. Да апошняй хвіліны ні на што не спадзяваліся. Без усялякай надзеі даядалі ласункі. А Света, каб не хваляваццa, нават на вуліцу збегла. Раптам аб'яўляюць: журы першае месца нам прысудзіла. Бацька наш разгубіўся: "Не можа быць..." Света вярнулася — і таксама: "Не веру!" Але тут нам уручылі шыкоўны сервіз і сфатаграфавалі.

Я з сімпатыяй гляджу на гэтых людзей: і маленькіх, і дарослых. Не вытрымліваю і дапытваюся ў Анатоля Міхайлавіча: "Ёсць у вас свае сакрэты, якімі можна з іншымі падзяліцца: як дзяцей выхоўваць, як ніколі не сварыцца?" Ён адказвае:

— У нас пануе "сялянскі" метад: старэйшыя даглядаюць малодшых. Кожны мае свае абавязкі. Таму і наша мама прывабная, квітнеючая. І ва ўсіх настрой добры. Зразумела, і ў нас бываюць непаразуменні. Але мы ніколі не навязваем адзін аднаму свае думкі. Скажам, вырашыла Света, што баян — яе прызванне, мы не настойваем на адваротным.

Вось на такой добрай ноце і скончыць бы мне свой расказ. Аднак у справу ўступае няўмольнае "але".

— Будавалі мы дом, — расказваюць Мікулічы. (У іх трохпакаёвая кватэра. Не надта многа для сямі чалавек). — Здавалася б, усё добра: зямельны ўчастак выдзелілі. Пазыку (10,5 мільёна) узялі. Будаўнічыя матэрыялы патроху дасталі. Толькі "дайшлі" да даху — перасталі гэтую пазыку выдаваць. Цяпер чакаем.

Ды калі б толькі гэта. Мы — мнагадзетныя, а дапамагаюць нам толькі на словах ды на паперках. Сельпо — у тым ліку. Пойдзе, напрыклад, туды наша мама. Паказвае пашпарт. У мяне, гаворыць, сям'я вялікая. А ёй у адказ: "Вам малака толькі два літры дам".

Аднак мы — аптымісты. Верым: усё будзе добра.

Вось толькі бойкая Насця з сумам кажа мне на развітанне: "А я думала, што пасля конкурсу мы жыць станем лепш"...

*Вольга КРАЎЧАНКА, студэнтка факультэта журналістыкі БДУ.*

# НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

На новы від злачыннасці звярнула ўвагу насельніцтва прэс-служба ўпраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкома. У апошні час у абласным цэнтры пачасціліся выпадкі грабяжоў вадзіцелямі мапедаў і веласіпедаў. На вялікай скорасці яны выхопліваюць з рук жанчын, якія нічога не падазраюць, дамскія сумачкі і ўцякаюць.

XXX

Прадстаўнікі 15 гаспадарак рэспублікі, якія займаюцца вырошчваннем журавін, правялі нараду ў Пінску. Каб больш паспяхова вырашаць агульныя для усіх праблемы, яны задумалі аб'яднацца. Магчыма, ужо ў бліжэйшы час, пасля абагульнення прапаноў і распрацоўкі адпаведнай дакументацыі, у Беларусі на ўвесь голас заявіць аб сабе асацыяцыя журавінаводаў. Не выключаецца пакуль і іншая форма аб'яднання ў выглядзе таварыства з абмежаванай адказнасцю або акцыянернага таварыства.

XXX

Няўдалай аказалася спроба шэрагу гаспадарак Лунінецкага раёна вырасціць сёлета кітайскую кукурузу, насенне якой было набыта ў брэсцкіх камерцыйных структурах. Пасеяўшы яе ў тыя ж тэрміны, што і сваю, земляробы ўсходаў не атрымалі. Магчыма, на гэтым і быў бы закончаны эксперымент, калі б не вопыт калгаса "Дружба". Тут пасеялі "госцю" крыху пазней, як зямля добра прагрэлася, і цяпер у полі трохметровая кукуруза стаіць, як сцяна лесу. Так што спісваць з рахунку сарты з далёкага Кітая, відаць, рана.

X X X

Чатыры разы за мінулы жнівень прыйшлося адрывацца ад баявой вучобы воінам адной з часцей Баранавіцкага гарнізона, якой камандуе палкоўнік В.Чвей. Усякі раз яны аператыўна прыбывалі на месцы лясных пажараў, умела лакалізоўвалі і тушылі полымя. У выніку выратаваны лясы каля вёсак Дзераўная, Бярозаўка і Тартак. Усяго ж у сёлетнюю спякоту воіны беларускай арміі ліквідавалі дзесяткі ачагоў узгаранняў у гаспадарках і населеных пунктах побач са сваімі гарнізонамі.

X X X

Чатырнаццаць жанчын, якія праходзілі вайсковую службу ў Мінскім абласным і сталічных райваенкаматах, выйгралі судовы працэс па іску аб недаплаце ім грошай пры звальненні з арміі. Суд прызнаў правату ўсіх чатырнаццаці ісціц. Ім будуць выдадзены недаплачаныя грошы, а службовыя асобы, якія палічылі, што жанчын можна беспакарана пакрыўдзіць, заплацяць яшчэ і судовыя выдаткі.

X X X

Адклікаць дэпутата Свіслацкага раённага Савета Яўгена Мілько запатрабавалі на сходзе выбаршчыкі — жыхары пасёлка. Прадыктавана такое рашэнне тым, што дэпутат скампраметаваў сябе. Маючы добраўпарадкаваную трохпакаёвую кватэру, ён за дзяржаўны кошт пабудаваў сабе катэдж агульнай плошчай 130 квадратных метраў, а кватэру пакінуў дачцэ. Па прадстаўленню мясцовага пракурора народны суд раёна вынес рашэнне аб высяленні сям'і Мілько з катэджа ў раней займаемую ёю кватэру. Рашэнне раённага суда пакінуў у сіле абласны суд.

*БЕЛІНФАРМ.*

# ЗА ЯГАДЫ — ЦУКАР, ВІНО І ГАРЭЛКА

Сёлетні год ураджайны на чарніцы. У лясах Мядзельскага раёна, напрыклад, нарыхтавана больш за 38 тон гэтых ягад. Дарэчы, усе чарніцы прайшлі радыяцыйны кантроль і толькі потым рэалізаваны лясгасам таварыству з абмежаванай адказнасцю "Мара" з Салігорска.

Чым жа разлічваліся за дары лесу з насельніцтвам прадстаўнікі "Мары"? Яны давалі ўзамен цукар, віно і гарэлку. Хто ведае, магчыма, гэта і стымулявала збор чарніц?

Не выключана, што ў перыяд збору грыбоў прадпрымальнікі з салігорскай "Мары" прыменяць тыя ж метады работы.

■ Набалела!

# ДЗЕ Ж ТВАЯ БЫЛАЯ СЛАВА, КІНО?

ЯШЧЭ некалькі гадоў таму назад у гарадскім пасёлку Узда і ў сельскай мясцовасці раёна налічвалася звыш 40 стацыянарных кінаўстановак, у аддаленыя вёскі рэгулярна завозіліся кінаперасоўкі. Не існавала праблем з дастаўкай сюды кінастужак. Для гэтага штодзень было задзейнічана па 2—3 аўтамашыны. Цяпер жа з-за дэфіцыту бензіну з райцэнтра фільмы цэнтралізавана не дастаўляюцца. Сельскія ж кінамеханікі ў выніку вымушаны жыць, працаваць і атрымліваць зарплату па добра вядомаму кожнаму з нас прынцыпу: хочаш жыць — умей круціцца. І круцяцца як могуць маладыя хлопцы і пажылыя людзі — кінамеханікі, для каго няма на свеце найлепшай работы, як гэтая, дзякуючы якой жывеш і зарабляеш на хлеб свой надзённы. Колькі разоў давodзілася бачыць, як у любую пару года, уладкаваўшы каробкі з кінастужкамі на багажнік веласіпеда, дабіраецца з нялёгкай ношай, пераадольваючы звыш дзесятка кіламетраў, адзін са старэйшых кінамеханікаў раёна Уладзімір Сцяпанавіч Ачапоўскі. Гэты вопытны і кваліфікаваны спецыяліст добра ведае густы і запатрабаванні сваіх гледачоў, імкнецца як мага паўней задаволіць іх заяўкі. Таму ў вёску Войкава, дзе знаходзіцца яго кінаўстаноўка, прыходзяць гледачы нават з іншых населеных пунктаў.

Багаты вопыт работы ў кінамеханіка Мікалая Іванавіча Працкевіча, які абслугоўвае стацыянарную ўстаноўку ў вёсцы Таўкачэвічы. Адлегласць да райцэнтра — звыш 30 кіламетраў. Паспрабуй даставіць з Узды ў сваю родную вёску каробкі з кінастужкамі! Але Працкевіч знаходзіць выйсце. Найчасцей "ловіць" спадарожныя аўтамашыны. Здараецца, па некалькі перасадак робіць, пакуль дабярэцца да клуба.

Ініцыятыўна, сумленна працуюць кінамеханікі Міхаіл Паўлавіч Цыбульскі, Сяргей Сяргеевіч Дзеркачоў, Аляксандр Генадзьевіч Ярмак, якія дэманструюць фільмы ў вёсках Касцяшы, Магільнае, Кухцічы і інш.

Як паказвае жыццё, рыначная эканоміка зрабіла адмоўны ўплыў і на работу кінафікатараў. Куды ні кінь — усюды клін, не хапае сродкаў. Вось і закрываюцца адна за другой кінаўстаноўкі ў сельскай мясцовасці. Цяпер іх засталося толькі 11, і тыя ледзьве "дыхаюць". Ды і на сеансы цяпер збіраецца нешматлікая аўдыторыя. Крыўдна, што нярэдка дэманструюцца нізкапробныя замежныя фільмы. Што яны даюць чалавеку? А было ж зусім інакш. Прыпамінаецца, як у невялікі старэнькі клуб нашай вёскі Зенькавічы прыязджала кінаўстаноўка. У тыя далёкія гады ў вёсцы не было электрычнасці. На двары побач з клубам ракатаў бензінавы генератар — сілкаваў электраэнергіяй кінаапаратуру. Даеш у руку кінамеханіку медны пятак і крочыш радасны ў глядзельную залу. А як у каго-небудзь яго не было? Калі дэманстраваліся фільмы, патрэбна было завешваць вокны клуба коўдрай. Тых гледачоў, што прыносілі яе сюды на гадзіну-другую з дому, кінамеханікі прапускалі бясплатна. Зачараваныя глядзелі мы на бялюсенькі экран, на якім штосьці бегала, ехала, лятала, гаварыла, іграла. На ўсё жыццё запомніліся з дзяцінства лепшыя, на мой погляд, айчынныя фільмы, такія, як "Дзеці партызана", "Ляцяць жураўлі", "Адзін у полі не воін", "Меч і ружа", "Салдат Іван Броўкін", "Іван Броўкін на цаліне", "Садко" і многія іншыя. Умовы для дэманстрацыі кінафільмаў былі тады не з лепшых, чаго не скажаш цяпер. Гледачоў прыходзіла так многа, што не хапала свабодных лавак, садзіліся на падлогу...

А цяпер, уладкаваўшыся з камфортам у крэсле, малады сучасны кінагляда ч вымушаны глядзець заморскую парнуху. Няўжо ў нас не хапае айчынных фільмаў, якія неслі людзям шмат добрага, цудоўнага, карыснага, як гэта было ў лепшыя часы? Хочацца верыць у вяртанне былой славы кіно.

*Міхаіл БУЛАТ, супрацоўнік уздзенскай райгазеты "Чырвоная зорка".*

